# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 15 (1717) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 9 КРАСАВІКА 1989 г ЦАНА 40 зл.




Нашы госці: Мікалай Міхноўскі, Ігар Вашкевіч і Васіль Старычонак.

## Завіталі да нас госці

Нядаўна нашу рэдакцыю наведалі госці з Мінска. Прабывалі яны ў Польшчы прыватна, гасцявалі ў сяброў і радні. Але як жа, будучы ў Беластоку, не наведаць братоў-беларусаў? „Ніва" ж у самым цэнтры горада!

А рэдакцыя наша заўсёды рада сустрэцца з людзьмі, з чытачамі, з усімі, хто стараецца ўносіць свой пасільны ўклад у нашу культуру, у наш нацыянальны здабытак, з усімі, з кім будуем супольна аўтарытэт і гонар беларуса ў свеце.

Гасцей было трое. Два малодыя вучоныя: Васіль Старычонак — выкладчык Педагагічнага інстытута імя М. Горкага ў Мінску і Мікалай Міхноўскі — медык па прафесіі, супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага санітарна-гігіенічнага інстытута. Васіль Старычонак — гэта аўтар каля 25 навуковых работ з галіны мовазнаўства. Апошняя з іх — „Слоўнік амонімаў беларускай мовы" — аддадзена ўжо ў друк. Маладыя вучоныя працуе таксама над практычнымі матэрыяламі праграмнага характару для выкарыстоўвання ў вузах і сярэдніх школах.

Мікалай Міхноўскі ж у сваім навукова-даследчым інстытуце займаецца праблемамі ўзаемаўплываў чалавека і асяроддзя. Калектыў, у якім працуе наш госць, доўгі час займаўся праблемамі вібрацыі, якая выклікана працай новага мінскага метро. Гэта яго інстытут даў адмоўную экспертызу па пытанню пабудовы другой лініі метро ў раёне гістарычнага Мінска, каб не пашкодзіць архітэктурным помнікам, якіх у Мінску засталося не так многа.

Трэці наш госць — малады інжынер-канструктар у галіне электронікі — Ігар Вашкевіч. Нядаўні студэнт, сёння ён актывіст маладзёжнай арганізацыі „Талака". Яго імкненні, як і яго арганізацыі, — надаваць сэнс жыццю сённяшняй, часта загубленай у нашым складаным свеце і таму яшчэ больш непакорлівай, моладзі. Моладзь сёння шукае сваё месца ў жыцці, гэтакае „Я" свайго пакалення. І „талакоўцы" знаходзяць сябе ў звароце да нашых нацыянальных каранёў — да гісторыі, культуры і мовы нашых дзядоў і прадзедаў.

Такіх людзей, як Ігар Вашкевіч, якія дайшлі да сваёй нацыянальнай свядомасці ўжо будучы дарослымі, ёсць вельмі многа. Ігар пачаў гаварыць пабеларуску, калі яму было ўжо трохі за дваццаць. Выхаваны ў Мінску, усё сваё мадоўгае жыццё гаварыў толькі па-руску. І сёння ён удзячны людзям, якія адкрылі яму прыгажосць нашай мовы і багацце нацыянальнай гісторыі і культуры. Ігар расчулена расказваў, як дапамагае пазнаваць мову маладым, навагі вучням, і цешыцца за іх, што да іх нацыянальная свядомасць прыйшла раней, і што энергію сваю яны змогуць прысвяціць у будучыні на карысць свайго народу, дапамагаць яму ў абуджэнні з нацыянальнага летаргу.

Гасцей нашых цікавіла жыццё беластоцкіх беларусаў, умовы, у якіх яны працуюць. Нас жа, і нашых чытачоў, — чым сёння жыве Беларусь.

Наша размова хутка сышла на тэму новага ў Савецкім Саюзе, і асабліва — у Беларусі, дзе вялікага размаху набралі сілы перамен, абнаўлення, выяўлення перад народам злачынстваў часоў сталінічыны і брэжнеўскага патурання бюракратыі і дзялення грамадства на лепшых і горшых.

Як мы ўжо ведаем, пад канец мінулага года і на Беларусі ўтварыўся Арганізацыйны камітэт Народнага Фронту ў дапамогу перабудове, які прыняў назву „Адраджэнне". Ініцыятарам была творчая інтэлігенцыя, у першую чаргу Саюз пісьменнікаў Беларусі, Саюз кінематаграфістаў і Саюз мастакоў. У склад арганізацыйнага камітэта Народнага Фронту за перабудову ўвайшлі таксама прадстаўнікі навуковай інтэлігенцыі, рабочыя і служачыя, камуністы і беспартыйныя. „Камітэт ставіць сваёй мэтай, — гаварылася ў звароце аргкамітэта ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР, — садзейнічаць разгортванню шырокага руху ў падтрымку курса КПСС на рэвалюцыйную перабудову і абнаўленне грамадства, абудзіць палітычную і творчую актыўнасць грама-

(Працяг на стар. 4)

## Барацьба на аргументы

Як пачаць дзейнічаць, каб з лепшымі эфектамі рашаць праблемы людзей у нашым ваяводстве? — гэта адно з пытанняў з уводнага даклада I сакратара Ваяводскага камітэта ПАРП Уладзіміра Каладзеюка на Ваяводскай справаздачай партыйнай канферэнцыі, якая адбылася 11 лютага г.г. у Беластоку. Яно і сталася лейтматывам амаль усіх выступленняў дэлегатаў і запрошаных на канферэнцыю гасцей.

Апрача 235 дэлегатаў, прадстаўнікоў 35-тысячнай ваяводскай партыйнай арганізацыі, у канферэнцыі прымалі ўдзел шматлікія госці, а сярод іх член Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП Збігнеў Міхалэк. Пасля даклада I сакратара ВК ПАРП Уладзіміра Каладзеюка, у якім ацэнена актуальная сітуацыя ў ваяводстве, выступіла 27 прамоўцаў, а большая частка з іх закранала справы сельскай гаспадаркі.

Аб цяжкіх умовах, у якіх прыйшлося гаспадарыць сялянам на Беласточчыне, гаварыў начальнік гміны ў Крыпне Тадэуш Вонсэк. Хаця ў нас нізкаякасныя глебы і каротшы на 20 дзён перыяд вегетацыі, то забеспячэнне тэхнікаі на 20 прац. меншае. Аляксей Дзярманскі з Зуброў заўважыў, што зараз многія гавораць аб сельскай гаспадарцы, але з гэтага патоку слоў не відаць нічога канкрэтнага. Надалей фабрыкі выпускаюць нізкаякасную сельгастэхніку, але затое штораз даражэйшую. Рэфармуюцца цэнтральныя ўстановы, а ва ўправе гміны ўсё як бы па-старому, можа толькі балаган большы. Напрыклад, у Гарадоцкай гміне падаткавыя наказы высылаюць таксама і да нябожчыкаў. У той жа гміне дзяржаўны фонд зямлі павялічваецца і налічвае звыш 3000 га ў сотнях участкаў. Каб добра загаспадарыць тыя землі, трэба іх неадкладна ўзбуйніць у вялікія арэалы, а тады перадаць калгасам.

Мікалай Кусачук з Вулькі-Нурэцкай на прыкладзе сваёй мясцовасці паказаў, як вёскі ва ўсходняй паласе ваяводства ў хуткім тэмпе старэюць і абязлюдніваюцца. Маладыя не хочуць заставацца на бесперспектыўных гаспадарках. Прапанаваў знесці падатак з найгоршых грунтаў (V і VI класа).

(Працяг на стар. 4)

## НА МЯЖЫ

— 1 —

# Кулачка, вораг народа



У пагодны чэрвеньскі дзень 1941 года дайшла ў нашу хатку вестка, што вывозяць у Сібір родную сястру маёй маці Настусю і ўсю яе сям'ю і што будуць везці іх праз Бандары. Так злажылася, што дома была толькі маці і я, рэшта сям'і знаходзілася ў полі. Маці замітусілася, забегала, завойкала. Хуценька палажыла ў торбу кусок саланіны і сухароў, і мы пабеглі ў канец вёскі, кудой мелі ехаць вывезеныя.

— Каб хоць затрымаліся! Каб хоць затрымаліся! — паўтарала паўпрытомная маці.

У канцы вёскі, каля Назаркавых, стаяла многа людзей, да якіх далучыліся і мы. Чакалі надоўга, калі нехта крыкнуў:

— О! З Лукі выязджаюць грузавікі!

І сапраўды, з канца вёскі Лука, ад якой да Бандароў адзін кіламетр, паказаліся ў клубах пылу грузавікі. Зразумела, што не было відаць, хто ў іх едзе. Аднак вельмі хутка грузавікі праляцелі да ракі і загрукаталі па масце. Першы з іх вельмі голасна „кашляў“, выкідваючы з сябе клубы чорнага дыму. Якраз гэта і было прычынай таго, што, даехаўшы да натоўпу, грузавік затрымаўся, а за ім затрымаліся другія.

— А, Божа мой, Божа, — зашаптала маці. — Калі так, то пабачым сваякоў.

Мы кінуліся ўздоўж калоны і вельмі хутка знайшлі грузавік, на якім сядзела сям'я Марозаў, нашых сваякоў. На маленькіх клунках сядзеў Іван Мароз, яго жонка Настуся, сын Ваня і дачка. Маці кінулася да кузава, але з яго, амаль ёй на галаву, саскочылі два канваіры з доўгімі вінтоўкамі. Трымаючы вінтоўку ўпоперак цела, адзін з канваіраў сказаў:

— К машине, гражданка, подходить нельзя.

— Я толькі торбу з сухарамі перадам.

— И это тоже не разрешается.

Нечакана ад першага грузавіка падбег афіцэр і закрычаў:

— Что вы с посторонними балакаете! Устава не знаешь! Отогнать толпу на приличное расстояние!

Вінтоўкі канваіраў павярнуліся да нас штыкамі. Штыкі былі для мяне як бы і не страшныя таму, што віселі ў мяне недзе над галавой. Затое маці глядзелі яны проста ў вочы. Мы пакаціліся назад, пакідаючы на вулічным пяску сляды ад босых ног. Раптам я пачуў на галаве нешта мокрае і цёплае. Зірнуў уверх і пабачыў, як з вачэй маці капіліся буйныя слёзы. Цётка Настуся і дачка загаласілі ў грузавіку, заплакала ўголас і маці.

Афіцэр падскочыў да маці і рэзка спытаў:

— Кто они тебе, родственники?

— Се-е-стра родна мне Настуся, — не спыняючы слёз, з цяжкасцю прагаварыла маці.

— Сестра, значит! Значит, ты тоже кулачка и враг народа?! Не беспокойся, за вами тоже приедем. А реветь нечего! Растаётесь не на долго! В Сибири места для паразитов много! Вот там вместе и наплачетесь!

Раптам ад першага грузавіка падбег да афіцэра шафёр і сказаў: — Готово, товарищ капитан!

— По машинам! — зычна крыкнуў афіцэр.

Адзін з канваіраў быў нізкага росту і ніяк не мог залезці ў кузаў. Дзядзька Мароз схапіў яго за руку, каб дапамагчы яму.

— Не смей! — крыкнуў другі канваір, і дзядзька Мароз неяк абмяк і сеў на клунак. Тым часам канваір схапіў малога за рукі і ўзвалок на бар'ер кузава. Малы нырнуў за бар'ер і зверху на момант тырчэлі толькі яго вялікія боты.

Машыны крануліся з месца і хутка прапалі за паваротам, узбіваючы велізарную хмару шэрага пылу.

Маці нерухома стаяла і ўзіралася ўслед прапаўшым машынам. Праз некалькі мінут пыл рассеяўся і зноў улёгся на дарозе. З Бандароў у Рыбакі пралеглі роўныя сляды грузавіковых колаў.

А маці ўсё стаіць, усё глядзіць, усё чагосьці як бы чакае. У адной руцэ трымае торбу з сухарамі, а другая жылістая, сумная рука звісае ўздоўж цела. Час ад часу падымае яе і верхняй часткай далоні выцірае слязу. Яе патрэсканыя босыя ступні моцна заглыбіліся ў вулічны, перамелены на попел пясок. І апранута „кулачка“ і „вораг народа“ не надзвычайна. На ёй белая кужальная кашуля, зашпіленая пад шыяй на сіненькі гузічак, і саматканы зрэбны чорны парцяк, зашпілены з боку на палачку.

Я цягну маці за руку і яна, як бы ў сне, моўчкі паварочваецца і разам накіроўваемся ў бок хаты. А вакол сонечна, сонечна. А вакол зялёна, зялёна. А вакол звонка, звонка. А нам горка, горка.

Уваходзім у хату. Маці сядае на ўслоне. Торбу няведама чаму трымае на прыполе. Глядзіць няведама куды невідушчымі вачыма і прычытвае.

— А Божа ж мой, Божа! Не дазволілі ўзяць ні кароўкі, ні свіняці, ні авечкі, ні гускі, ні куркі. Прападут яны ў той Сібіры з голаду і холаду, прападут, прападут. А Божа мой, Божа...

**Алесь Барскі**

## ПАТРЭБНА КОНСУЛЬСТВА

Кожны жыхар Беласточчыны можа заўважыць, што ў апошнія два гады наступіла развіццё кантактаў паміж грамадзянамі Польшчы і Савецкага Саюза. Цягнікі з Гродна ў Беласток і ў той бок перапоўнены людзьмі і іх багажамі. На базарах у Вільнюсе, Гродне і ў Беластоку ці ў Варшаве можна купіць такія тавары, якіх не ўгледзіш у крамах нашых краін. Гэта зразумела, што людзі мусяць неяк ратавацца, калі ў краіне эканамічны крызіс.

Але да нас прыязджаюць людзі, якія не толькі хочуць купіць ці прадаць. Шмат грамадзян прыязджае ў Польшчу і СССР, каб пабачыць сваіх блізкіх, знаёмых, сяброў, сустрэцца з землякамі. Палітычныя перамены ў нашых краінах выклікаюць зацікаўленне развіццём супрацоўніцтва, абменам вопытам з суседзямі ў навуковай, культурнай і гаспадарчай галінах. Многіх грамадзян цікавяць турыстычныя паездкі. Даводзіць гэта да таго, што сёння вельмі цяжка дастаць білет на цягнік у Маскву, Вільнюс ці Ленінград.

Вядома таксама, што калі больш людзей, дык і больш праблем з імі. У мінулым годзе ўлады ПНР і СССР дамовіліся аб утварэнні польскага консульства ў Вільнюсе. Патрэбна консульства ў Беластоку. З Беласточчыны ездзім у БССР, ЛССР, у Беласток прыязджае многа нашых суседзяў — прыгранічныя кантакты грамадзян канцэнтруюцца якраз на Беласточчыне і Гродзеншчыне, праз Беласток праязджаюць у цэнтральную Польшчу і СССР. Не трэба нікога пераконваць, што такая колькасць турыстаў выклікае многа праблем, якія хутка павінен развязваць консул СССР у Беластоку. Трэба пры гэтым улічыць, што кантакты паміж грамадзянамі абедзвюх краін будуць хутка разгортвацца, чаму спрыяюць перамены ў грамадска-палітычным жыцці Польшчы і Савецкага Саюза.

Польскія консульствы ў Вільнюсе і Мінску дапамагаюць у развіцці культурных і грамадскіх кантактаў між палякамі. Для нас, беларусаў з Беласточчыны, савецкае консульства ў Беластоку было б яшчэ адным месцам наладжвання сувязей з нашымі суродзічамі за мяжой.

**Антось Мірановіч,**
Беласток

## ХРОНІКА

**14 сакавіка 1989 г. нашу рэдакцыю наведалі мінскія журналісты: адказны сакратар „Звязды“ Уладзімір Андрыевіч і супрацоўнік „Сельскай газеты“, Міхал Шыманскі. На працягу 20-ці дзён праходзілі яны стажыроўку ў „Трыбуне Люду“. За гэты час пабывалі яны ў розных мясцовасцях нашай краіны, а таксама і ў Беластоку. Мінскія госці цікавіліся працай нашай рэдакцыі, яе тэматычнымі планамі, дзейнасцю Беларускага грамадска-культурнага таварыства і жыццём беларусаў у Польшчы.**

**Беларускіх журналістаў прыняў сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Мікалай Козак. Падчас сустрэчы тав. Козак паінфармаваў аб прыгранічным супрацоўніцтве Беластоцкага ваяводства з Літоўскай ССР і Гродзенскай вобласцю. У чэрвені г.г. у Беластоку плануецца чарговы кірмаш прыгранічнага абмену з удзелам прадпрыемстваў з Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны і з акругі Хаскава з Балгарыі. Да гэтага часу будзе адкрыты дарожны пагранічны пункт у Кузніцы-Беластоцкай.**

**Госці пазнаёміліся з гісторыяй нашага горада і яго помнікамі. (л)**

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР НА 1989 ГОД

Урэшце прычакалі мы нашага календара на гэты год. Чаму не пад Новы год, а толькі пад Вялікдзень? На пальцах адной рукі можна палічыць выпадкі, калі Беларускі календар выходзіў своечасова, гэта значыць, яшчэ перад Новым годам. Ці вінавата ў гэтым наша „беларуская млявасць“? Магчыма, часткова яно і так. Але існуюць і некаторыя іншыя прычыны, сярод якіх я вылучыў бы тую, што дагэтуль не было пастаяннага рэдактара календара. Амаль штогод рэдактар календара змяняўся. Прытым, справа не без значэння, рэдагаванне календара — занятак, які патрабуе шмат клопату і дае мала прыбытку рэдактару. Ганарары ж цяпер — амаль сімвалічныя. БГКТ даходу ад продажу календара не мае. Наадварот, да кожнага экземпляра даводзіцца даплачваць яшчэ гэтулькі ж, колькі ён намінальна каштуе. Але ці ж можна нам пакінуць гэтае выданне толькі таму, што яно здаўна ўжо не выконвае тае функцыі, якая належыць календару? Пытанне, вядома ж, рытарычнае: нельга нам абмінуць ніводнай з магчымасцяў, якія існуюць для беларускага друкаванага слова.

Рэдактарам сёлетняга календара з'явілася Ніна Амельянюк, навуковая супрацоўніца Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Праект вокладкі выканаў гайнаўскі мастак Янка Салавянюк. Тыраж календара — 6000 экземпляраў. Цана — 400 злотых. Аб'ём — 276 старонак (17 друкарскіх аркушаў).

Як заўсёды, на пачатку змешчаны каляндар з вылучэннем праваслаўных і каталіцкіх свят ды календарыум некаторых запамінальных датаў з беларускай гісторыі. Далей Янка Зенюк, намеснік старшыні Ваяводскай рады Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння ў Беластоку, піша пра здзяйсненні і задачы гэтага руху ў грамадска-палітычным жыцці краіны.

У частцы „З гістарычнага мінулага“ змешчаны чатыры артыкулы. Аляксандр Баршчэўскі піша пра светапогляд ды рэнесансавыя матывацыі ў жыцці беларускага першадрукара Францішка Скарыны. Марыя Базылюк прадстаўляе жыццёвы шлях Яўгена Хлябцэвіча — члена Беларускай Сацыялістычнай Грамады, супрацоўніка „Нашай Долі“ і „Нашай Нівы“, аднаго з заснавальнікаў навукова-літаратурнага гуртка беларускіх студэнтаў Пецярбургскага універсітэта ў 1912 годзе. Варта адзначыць, што лёс гэтага чалавека быў таксама звязаны з Беласточчынай: ягоны бацька, Іван Хлябцэвіч, у 1897—1915 г.г. быў святаром праваслаўнага прыхода ў вёсцы Кленікі Бельскага павета. Сам Яўген Хлябцэвіч заснаваў у Кленіках аматарскі драмгурток, што пакінула свой гістарычны след занатоўкай у „Нашай Ніве“ (1909 г.). Мікола Іваноў прадстаўляе падзеі, якія спрычыніліся для паўстання беларускай дзяржаўнасці пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, асаблівую ўвагу звяртаючы на Пер-

(Працяг на стар. 5)

## Пра нашых пісалі...

(Працяг са стар. 3)

да рэабілітацыі сваёй партыі хто загінуў у ходзе рэвалюцыйнай барацьбы ў Заходняй Беларусі альбо стаў нявіннай ахвярай сталінскага тэрору.

...Даследчыца мае намер пашырыць сваю галерэю партрэтаў дзеячаў заходнебеларускага нацыянальнага руху, высветліць малавядомыя старонкі ўзаемадачыненняў заходнебеларускіх камуністаў і дзеячаў іншых палітычных напрамкаў. Штодня на яе адрас прыходзяць шматлікія лісты. Пішуць былыя КПЗБоўцы, калегі-гісторыкі, усе тыя, хто па-аматарску цікавіцца гісторыяй роднага краю.

На жаль, беларускі чытач не мае магчымасці ацаніць праўдзівасць гэтых сцвярджэнняў. Да сённяшняга дня ніводная з прац Аляксандры Бергман не выдадзена ў БССР. Ніхто не зрабіў спробы выдаць у Мінску нават такую фундаментальную яе працу, як „Слова аб Браніславе Тарашкевічу“. У застойны перыяд падобная пазіцыя вядомых бюракратычных колаў тлумачылася тым, што працы А. Бергман былі напісаны без замоўчвання трагічных старонак гісторыі КПЗБ, без перакручвання гістарычнай праўды. Сёння ж, як мне здаецца, менавіта тыя самыя колы не зацікаўлены ў тым, каб у выніку знаёмства з працамі А. Бергман грамадства яшчэ раз пераканалася, да чаго давялі беларускую гістарычную навуку кан'юнктурнасць і бюракратычны дыктат застойнага перыяду.

**М. Іваноў,**
кандыдат гістарычных навук

## ХТО ДАПАМОЖА?

Захварэла ў мяне карова, на вымені адкрылася рана. Даволі доўгі час карову лячыў ветэрынар з Орлі, але нічога не памагала. Вымя стала гніць і смярдзець. Ветэрынар падазраваў, што гэта рак, што жывёліну не ўдасца вылечыць і, каб ратаваць мяса, накіраваў карову ў бойню. Карову зарэзалі, а я 19 снежня 1988 г. звярнуўся ў ПЗУ ў Бельску-Падляшскім за кампенсацыяй (карова была застрахавана на 30.000 зл.). ПЗУ скансультавалася з лекарам-ветэрынарам у Бельску, а той заявіў, што карова не здохла б на працягу шасці тыдняў і паспешліва яе паслалі ў бойню. Не ведаю, чаму бельскі ветэрынар так сцвердзіў, але ён гэту карову не лячыў і не бачыў яе. Бельскі інспектарат ПЗУ адмовіўся выплаціць кампенсацыю. Не памагла апеляцыя ў Ваяводскім аддзяленні ПЗУ ў Беластоку. Там падтрымалі адмоўнае рашэнне і параілі накіраваць справу ў суд. Пастаянна і рэгулярна аплочваю страхоўку, а як здарылася няшчасце, то ПЗУ адмаўляецца дапамагчы. Адчуваю сябе пакрыўджаным. Што рабіць далей? Можа, напісаць у Варшаву, але не ведаю, у якую ўстанову. Хто мне дапаможа?

**Мікалай Хаманскі,**
Спічкі

# А ПЕСНЯ Ў СЭРЦЫ ЗАСТАЛАСЯ...

Адгучалі апошнія акорды сёлетняга конкурсу „Беларуская песня '89“. Фінальны агляд яго ў Беластоку з'явіўся як бы падсумаваннем вынікаў працы цэлага года (ды не толькі аднаго года) калектываў, дуэтаў і салістаў з большых і меншых, а нават зусім невялічкіх мясцін, вядомых са свайго расспявання і замілавання да роднай песні. Дасканала, як заўсёды, прадставіліся калектывы з Гарадка, Рыбалаў, Бельска, Гайнаўкі, Беластока, Дабрывады, Чаромхі, Арэшкава, Чыжоў, Хільмонаў, Райска, Мельніка, Дашоў...

Адгучалі мелодыі, што прынеслі нам пахі родных палёў і лугоў, свежасць сялянскага гумару, адвечны непакой за чалавечы лёс, але і ўнеслі радасць жыцця, радасць стваральнай працы.

А песня ў сэрцы засталася... І доўга слухачы яшчэ будуць насіць яе ў сабе, успамінаючы тыя дні, калі яна падхапіла ў свой нурт прысутных у зале Беластоцкай філармоніі.




*Калектыў „Крынічка“ з Бельскага беларускага ліцэя ў катэгорыі сучаснай песні быў бесканкурэнцыйны.*




*Спявае дзявочы актэт з Гайнаўскага беларускага ліцэя.*

Некаторым беластоцкім каментатарам чамусьці здалося, што быццам бы беларуская песня гэта ўжо сёння дамена старэнькіх бабуляў, амаль рэлікт мінулага. Як жа глыбока памыляюцца яны! Думаю, што проста не прысутнічалі на фінальным аглядзе, а былі толькі на канцэрце лаўрэатаў на наступны дзень. Можа, і сапраўды так выйшла, што ў канцэртах выступіла больш старэйшых людзей, і аўтар тых каментарыяў узяў пад увагу толькі тое, што бачыў, а бачыў жа далёка не ўсё, што мог бы ўбачыць на конкурсе. Дастаткова сказаць пра дзяўчатак з двух беларускіх ліцэяў — Бельскага Гайнаўскага! Тут жа былі не толькі калектывы, але і дуэты, і салісты (Аліна Маліш з Гайнаўкі, адтуль жа дуэт Івона Давідзюк-Ірэк Прыходскі, Эля Рыжык з Бельска, якая сама сабе акампаніявала на гітары і, як вопытны музык, з вялікай музычнай культурай, змяняла сабе акампанемент і спосаб спявання. Сапраўдны віртуоз! Быў таксама яшчэ дуэт Эля Томчук — Дануся Станіславюк з Бельскага беларускага ліцэя і адтуль жа Ася Баенская, якая на эстрадны манер заспявала дзве песні: „Пах чабаровы“ і „Конікі“).

І яшчэ: не прыехалі ж спевакі з калектываў, якія працуюць пры Гданьскім аддзеле БГКТ. Не прыехалі, бо па нейкіх важных прычынах не змаглі прыехаць. Памятаю, аднак, з якім энтузіязмам віталі іх у мінулым годзе ў гэтай жа зале Беластоцкай філармоніі. У гэтых гуртках спявае амаль адна моладзь! Не было таксама славутай дачкі Любы Гаўрылюк — Алы Дубец, і маці мусіла заспяваць у дуэце з кімсьці іншым. А памятаю ж, які гэта быў цудоўны дуэт! Колькі моладзі патрапіла згуртаваць Ала, дзяўчына, якая спявала амаль ад калыскі... У мінулым годзе выступала яна на цэнтральным аглядзе і як салістка, і ў дуэце, і ў трыо, і ў такім калектыве, і ў іншым... Сёлета Алы не было, бо пераехала з Беластока на поўдзень Польшчы, а да таго ж, як каза-




*Калектыў „Цаглінкі“ са Старога Ляўкова выступіў у новых касцюмах.*

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Пяцікласнікі са школы ў Дубінах з настаўніцай Нінай Гаўрылюк. Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДЭКЛАМАТАРСКІ КОНКУРС ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

Што можа быць прыгажэйшым за прыроду зямлі, на якой мы нарадзіліся і жывем? Вакол нас чароўны, казачны свет, які з маленства напаўняе душу. Тут нас вітае вясенняя раніца песняй жаваранка і засынаем пад калыханку дрэў. Любім мы цёплае сонейка і ветрык-гарэзу, дажджыска-грыбасей і нават навальніцу з маланкамі. І не дзіва, што беларуская прырода багата апетая пісьменнікамі.

Вось і ў гэтым годзе дэкламатарскі конкурс для школьнікаў, арганізаваны Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Куратoрыяй асветы і выхавання ў Беластоку, праходзіў пад лозунгам: „Беларуская прырода ў паэзіі і прозе“. Вучні з падставовых школ выступалі ў трох этапах: у школе, раённых элімінацыях і на цэнтральным аглядзе. Мне пашчасцілілася паслухаць дэкламацыі ўсіх удзельнікаў, пачаўшы ад раённых конкурсаў у Гайнаўцы, Кляшчэлях, Беластоку і Бельску, канчаючы цэнтральным — у Беластоку. І кожны раз я захапляўся выказваннем дзяцей і моладзі іх уласных пачуццяў да сваёй зямлі пры дапамозе літаратурных твораў на прыгожай беларускай мове. На жаль, конкурснае спаборніцтва за месцы часта было прычынай дадатковых перажыванняў дэкламатараў ды іх настаўнікаў. Аднак конкурс — гэта конкурс і кіруецца сваімі правіламі. Лаўрэатамі ў ім могуць стаць удзельнікі найлепш падрыхтаваныя. Аднак жа найважнейшае ў конкурсе гэта ахвота і адвага выступіць перад іншымі, падзяліцца сваімі пачуццямі, паказаць, што любім роднае слова.

Таму цешыць факт, што ў раённых элімінацыях выступіла амаль 100 асоб, амаль выключна дзяўчаткі. І не сорамна вам, „кавалеры“? Дзе ваша адвага? Не верыцца, што вы не любіце роднага жывога слова.

У гэтым годзе ўсе раённыя конкурсы былі падрыхтаваны добра. А ў Гайнаўцы кожнае выступленне было знята на касету відэо, дзякуючы Гайнаўскаму дому культуры, які сардэчна заапекаваўся правядзеннем конкурсу ў сваім будынку. Больш бы такіх прыяцеляў беларускім дзецям! У Кляшчэлях




гмінны інспектар асветы Багдан Назарка, як адзіны з гмінных інспектараў, асабіста арганізаваў конкурс. Іншыя гмінныя інспектары перадалі грошы на ўзнагароды.

У цэнтральным конкурсе, які адбыўся 18 сакавіка г.г. у памяшканні ГП БГКТ у Беластоку, выступіла **24 вучаніцы і 1 вучань** з II–V класаў і **13 вучняў** з VI–VIII класаў. Разам было **38 удзельнікаў з 18 школ**, у якіх навучаецца беларуская мова, і сярод іх 5 асоб, што рыхтаваліся да дэкламацыі індывідуальна. Упершыню прыехала чацвёра дзяцей з далёкага Гданьска, якіх да конкурсу падрыхтавала Анна Іванюк — добра вядомая актывістка Беларускага таварыства. І тут насоўваецца пытанне: чаму не прынялі ўдзел дзеці з горада Беластока?

Фінальны сёлетні конкурс вельмі падабаўся бадай усім прысутным. Нават члены журы больш захапляліся выступленнямі ўдзельнікаў, чым „судзілі“. А ўсе яны: Віктар Швед, Мікола Гайдук, Міра Лукша, Віктар Стахвюк — з'яўляюцца беларускімі літаратарамі, якіх не так і лёгка захапіць. Нічога тады дзіўнага, што хацелі ўсіх узнагародзіць як мага найлепш. Аднак фінансавыя сродкі на ўзнагароды былі скромныя, і прыйшлося вызначаць лепшых з лепшых. Аб выніках конкурсу пачну інфармацыю ад катэгорыі II–V класаў, бо „хоць яны меншыя дэкламатары, але аказаліся сільнейшымі“, — як сказаў старшыня журы Мікола Гайдук. Сярод малодшых тры першыя месцы занялі **Юліта Баршчэўская са школы ў Трасцяніцы** (настаўніца Галена Тапалянская), **Кася Мацкевіч з Гданьска** і **Наталька Русачык з Падставовай школы № 3 у Бельску.** (Да конкурсу падрыхтавала яе мама — методык беларускай мовы Тамара Русачык). Усе яны выступілі захапляюча. Вельмі добра дэкламавалі дзяўчаткі, якія занялі другое месца: **Агнешка Саеўская, са школы ў Кленіках** (настаўніца Вера Флёрчук), **Бася Астапчук са школы ў Ласінцы** (настаўніца Ніна Абрамюк) і **Крыся Галубоўская з Паўлаў,** якая да конкурсу рыхтавалася індывідуальна. Чатыром дэкламатарам журы прызнала III месца: **Анэце Врублеўскай і Алі Аўрамюк з бельскай „тройкі“** (настаўніца Міраслава Маркевіч), **Алі Паўлоўскай са школы ў Ласінцы** і

(Працяг на стар. 10)

Пад канец мінулага года выйшла з друку новая кніжка вядомага беларускага пісьменніка старэйшага пакалення Станіслава Шушкевіча — аднатомнік выбраных твораў. Апошні раздзел кніжкі „Выбранае“ прысвечаны дзецям.

Станіслаў Шушкевіч наш даўні сябар. Ужо не адну сваю цікавую кніжку ён падарыў „Зорцы“. Сардэчна дзякуем за новую кніжку і шчырыя, сардэчныя творы. А нашым чытачам прапануем некалькі вершаў з раздзела „Казачны церам“.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Станіслаў Шушкевіч

### БЕРАСЦЯНАЧКА

— Берасцяначка, скажы,
Дзе ты ў лесе любіш жыць?
Ці ў нізіне ля ракі,
Ля чароту, асакі?
Ці ў глухім асінніку?
Ці ў густым крушынніку?
— Там, дзе многа сонейка,
Ў чысценькім сасонніку
Мой узгорачак відаць.
Там люблю я жыць,
спяваць.

### ХРЫПАТЫ ПЕЎНІК

Захварэў пявун, ахрып,
Быў у пеўня страшны грып.
Маці — курыцу-квактуху —
Не любіў, крыклівы, слухаць.
Швэндаўся па садзе босы,
Абтрасаў на траўцы росы,
Пасля гульняў, прапацеўшы,
Ён крычаў, на плоце сеўшы.
На халодных лазіў лужах,
Вось таму і занядужаў.

### КАЧАНЁ

Плавала па лужыне
Качанё нядужае,
Лапкамі дзівоснымі
Шастала, як вёсламі.
А пасля нырнула,
Нібы патанула,
Курку напалохала,
Тая ў крык, завохкала:
— Ой, малое, кволае,
Ты ж амаль што голае.
Там як лёд вадзіца,
Можна прастудзіцца.
Качанё смяецца:
— Гэта так здаецца.
Не глядзі ты з горыччу,
Мне тут нават горача.

### ПЧАЛА

Я работніца-пчала.
Дзе я толькі не была!
У лугах, садах, лясах,
На кіпрэі, верасах,
На званочках і лілеях.
Так стамілася, што млею.
Шмат было ў мяне работы,
Я насіла мёд у соты.
Пасяджу ў пялёстках трошкі,
Забалелі крылы, ножкі.

### СВІНКА

Тлусценькая свінка
У лужы раскашуецца,
У гразі па спінку,
І устаць лянуецца.
Вохкае і рохкае:
— Ох, жыццё нялёгкае!

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

(Працяг са стар. 9)

### ПАРСЮЧОК

Парсючок пад'еў
І прыйшоў у хлеў.
Стогне: — Ух-ух-ух,
Я пад'еў за двух.
Але, пэўна б, мог
З'есці і за трох.

### ХОДЗІЦЬ КОЦІК ПА СТРАСЕ

Ходзіць коцік па страсе,
Мокрай лапкаю трасе.
І злуепца, варкатун,
На свой лёс, на маркату.
Дайце коціку спакой.
Быў ён сёння над ракой,
Усю ноч сядзеў дарма,
Над вадою задрамаў.
Сон прысніўся бедаку,
Упаў коцік у раку.
Гляньце, лапкаю трасе
Мокры коцік на страсе.

### ГУСАЧОК

— Забіяка беленькі!
Гусачок!
Звіс у цябе поўненькі
Валячок.
Дзе блукаў, бадзяўся?
Дзе ты быў?
Дзе шчыпаў травіцу?
Чым ты жыў?
— Жыў, як на курорце,
У глухім чароце.
Там, нібы на дачы,
Рос наш род гусачы,
Дзе балотца і дрыгва,
Хіба дрэнна? Га-га-га!

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

Пасажыр да сцюардэсы:
— Людзі з вышыні выглядаюць, як мурашкі! Як высока мы ляцім?
— Адзін метр. А гэта сапраўды мурашкі, — адказала сцюардэса.

* * *

— Якая глыбіня мора ў гэтым месцы?
— Каля васьмі метраў.
— Дзякаваць Богу. Сёння раніцай я чула, што было пад намі каля 80 метраў, а я ж не ўмею плаваць!

* * *

Матацыклісту пад колы трапіла кошка.
— Я выраўнаю вашы страты, — сказаў хлапец гаспадыні кошкі.
— А што, ты ўмееш мяўкаць і мышэй лавіць? — недаверліва паглядзела на яго гаспадыня.

* * *

— Хлопчык, можаш мяне перавесці на другі бок вуліцы, — просіць бабуля.
— Пачакайце, цётка, цяпер чырвонае святло!
— На зялёнае дык я і сама магу пайсці, — нервуецца бабуля.

* * *

Маці да дачкі:
— Гэты світар ты для сябе робіш? Не занадта вялікі ён?
— Не, мамачка, — адказвае дачка, — пакуль я яго зраблю, дык дарасту да яго.

## ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

### ПАВАЖАНАЯ „ЗОРКА"

*Высылаю вам матэрыял аб незвычайнай з'яве ў жывёлагадоўлі — нараджэнні адразу чатырох цялят. Думаю, што гэта можа быць цікава для зорчыных чытачоў.*

### ВОСЬ ГЭТА РЭКОРД!

У апошні час у сям'і пенсіянераў Касякоў, што жывуць у вёсцы Пузыры Мядзельскага раёна Мінскай вобласці, час ад часу заходзіла гаворка аб замене каровы. Як-ніяк, а бурoнцы ўжо трынаццаць гадоў, і малака яна стала даваць па 13-15 літраў у дзень. Але неяк не вельмі хацелася гаспадарам развітвацца з ёю.

І, як нядаўна аказалася, дзядзька Аляксандр і цётка Ганна не пашкадавалі, што не прадалі карову. Яна нечувана ўцешыла і задзівіла не толькі сваіх гаспадароў, але і ўсіх аднавяскоўцаў — нарадзіла адразу чацвярых цялятак: дзве чорненькія, як вугаль, і дзве чорна-пярэстыя цялушачкі. Прыкладна, па 13 кілаграмаў кожная. Яны хутка асвоіліся паміж сабою, гарэзліва тыцкаюць адна ў адну цёплымі мордачкамі.

А калі ўжо справа дайшла да фатаграфавання, дык тут ніяк нельга было справіцца з імі — не хочуць пазаваць і ўсё тут. Вось толькі калі прыйшла Галіна, нявестка цёткі Ганны, малыя трохі ўціхамірыліся. Мабыць, адчулі, што, дзякуючы ёй, калгаснаму інсемінатару, і з'явілася разам на свет гэтая дружная сямейка.

**Валянцін Грыцук,**
карэспандэнт газеты „Нарачанская зара" Мядзельскага раёна, БССР.
Фота аўтара



## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

Аня Залеская і Анэта Якімюк, вучаніцы 6 класа, вёска Трускі, пошта 17-121 Лубін-Касцельны, Беластоцкае ваяводства.

* * *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, п. Краснае, вул. Камсамольская, д. 5. кв. 7. Фядосавай Наталлі. 5 клас.

* * *

БССР, 222810, Мінская вобл., г. Мар'іна Горка, вул. Кастрычніцкая, д. 63, кв. 57. Мазанік Іра. 8 клас.

* * *

СССР, 346523, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Театральная, 35, кв. 33. Моисеевой Лене. 4 клас.

* * *

СССР, 686323, Магаданская обл., Сусуманский район, п. Широкий, ул. Скворцова, д. 14, кв. 4. Юле Зыблюк, 7 клас.

* * *

Дарота Галубоўская і Маніка Харкевіч, вучаніцы 6 і 4 класаў, вёска Новае Ляўкова, 29а і 30. пошта 17-221 Ляўкова Старое, Беластоцкае ваяводства.

* * *

СССР, 279200, Молдавская ССР, г. Бельцы, ул. Пионерская, д. 81/. Гутюм Анжеле. 13 год.

* * *

БССР, 220116, г. Мінск, вул. Голубева, д. 9, кв. 358. Дзічкоўская Таня. 5 клас.

## БЕЛАРУСКАЯ ПРЫРОДА



(Працяг са стар. 9)

Агнешцы Кулачэўскай з Падставовай школы № 1 у Гайнаўцы (настаўніца Вера Гаўрылюк). Былі яшчэ адзначаны добрыя выступленні Агаты Глагоўскай з Гданьска, Агнешкі Саўчук і Славіка Пракапюка з бельскай „тройкі", Уршулі Кунцэвіч з Ляшукоў, Агнешкі Сахарчук са школы ў Кляшчэлях і Івоны Кананюк са школы ў Пасынках.

Сярод вучняў старэйшых класаў бясспрэчна найлепш выступіла вучаніца школы ў Кленіках — Гражына Галавачык. Другое месца заняла Лідка Чурак з Гданьска, якая між іншым узрушыла прысутных вершам Алеся Гаруна:

„Хочацца быць мне
у тым краю нязнаным,
Хочацца край той
абняць з прастаты,
Хочацца крыкнуць:
гэй, краю каханы,
Будзь мне, як маці,
будзь родным мне ты!"

Аня Главацкая са школы ў Орлі (настаўніца Анна Шыманская) і Аня Ауксенцюк са школы ў Дубінах (настаўніца Вольга Гарустовіч) атрымалі трэція ўзнагароды. Добра дэкламавалі і былі адзначаны яшчэ Ася Гаворка і Ася Куна са школы ў Орлі і Эва Сапяжынская са школы ў Курашаве.

Чарговы дэкламатарскі конкурс беларускіх вучняў адышоў у гісторыю. Але варта было б лаўрэатаў узнагародзіць больш, чым толькі скромнымі рэчавымі ўзнагародамі ў конкурсе. Іх дэкламацыі заслугоўваюць, каб паслухалі многія. Журы сцвердзіла, што яны маглі б выступаць з нагоды розных культурных мерапрыемстваў, а нават варта было б арганізаваць для іх экскурсію ў БССР у рамках культурнага прыгранічнага абмену.

**Ян Мордань**

**Ад рэдакцыі: Хацелася б, каб у „Зорку" напісалі аб сваіх уражаннях з удзелу ў конкурсе яго ўдзельнікі або іх настаўнікі.**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




*У якім квадраце (1-8) знаходзіцца фігура, якую ты ба..у левым верхнім куточку?*


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка".

## СЛАВА

Кожны раз, калі мне даводзілася чытаць газету, я з нейкай зайздрасцю адносіўся да тых, аб кім пісалі на яе старонках, зайздросціў папулярнасці і пашаны, якімі яны карыстаюцца ў асяроддзі. І мне так хацелася, каб, здаецца, хоць што-небудзь і аба мне напісалі...

І што скажаце — калі ўжо чаго-небудзь чалавек моцна прагне, то яно і здзяйсняецца!

Напісалі і аба мне, даражэнькія, у нашай рэгіянальнай газеце, хаця каштавала гэта мне нямала здароўя і сродкаў.

Учора прыбягае мой пляменнік з газетай у руках і ўжо з парога крычыць: „Дзядзька, і пра вас напісалі, вось тут!" — і падае мне газету. Бяру з хваляваннем і гляджу, а на апошняй старонцы так стаіць: „На апошнім пасяджэнні калегіі (тут маё прозвішча і імя ды імя па бацьку) за тое, што ў дзень такі і такі, будучы п'яным, скандаліў у публічным месцы, прысудзілі штрафам, аплатай за пабыўку ў выцверазільніку і публікацыяй яго даных у газеце".

Цяпер ужо мяне ведаюць.

**Мікола Рагаты**





### ШУКАЕМ АДРОЗНЕННЯЎ

*Прыгледзьцеся ўважліва двум, на выгляд аднолькавым, малюнкам і знайдзіце прынамсі 10 дэталяў, якімі яны адрозніваюцца між сабою.*






## АФАРЫЗМЫ

Беларусу таму цана малая, які родную мову зневажае.

*

Ці можна мець вышэйшую ўзнагароду, як служыць свайму народу?

*

Каб не было на свеце людзей, не было б ні надзей, ні падзей.

*

Розуму не трэба многа, каб траціць час дарма.

*

Лічы — той адукаваны, хто роднай мове адданы.

*

Беларуская мова гучыць прыгожа, калі ёю хто добра валодаць можа.

*

Той заўсёды мае рацыю, хто паважае сваю мову і нацыю.

**Міхась Літвінчык**

### У СВЕЦЕ ЦІКАВЫХ ДУМАК

Тое, што чалавек умее адрозніць дабро ад зла, сведчыць аб яго інтэлектуальнай перавазе над іншымі істотамі; тое, што здольны чыніць зло, сведчыць аб яго маральнай непаўнацэннасці ў адносінах да тых істот, якія гэтага не ўмеюць.

**Марк Твэн (1835-1910),**
**амерыканскі пісьменнік**

## ЧОРТ І ЛЕКАР

Уладар пекла захварэў і выслаў наймалодшага чорта, каб той прывёў яму з зямлі добрага лекара.

— Сярод жывых столькі лекараў, як жа мне пазнаць, які з іх добры? — засумаваў чорт.

— Той будзе найлепшы, перад брамай якога снуе найменш душ яго пацыентаў, — параіў уладар.

Нячысцік абабег увесь горад і ўсюды брамы лекараў былі асаджаны натоўпамі душ. Урэшце знайшоў лекара, які, відаць, меў толькі адну ахвяру на сваім рахунку. Нядоўга думаючы, чорт схапіў таго лекара і паставіў яго перад сваім панам.

— Як доўга займаешся ўрачэбнай практыкай? — спытаў пякельны ўладар.

— Па сутнасці, я яшчэ студэнт, а пацыент у мяне быў толькі адзін.

### СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## КАСІЎ ВАСІЛЬ СЕНА

**(народная)**

Касіў Васіль сена,
Шырокі пакосы,
Да яго дзяўчына
Дзяціну прыносіць.*

— Васілю, Васілю,
Забірай дзяціну,
А як ты не возьмеш,
На пакосе кіну.

— Дам я табе, Галю,
Да грошай багата,
Не кажы нікому,
Што я яе тата.

— Не хачу, Васілю,
Я тых грошай браці,
Усім буду казаці,
Што ты яе тата.

Кінуў Васіль косу
У самага долу,
Узяў тую дзяціну
Да й панёс дадому.

— Ой, маманька, мама,
Што й та за прычына,
Ў лесе на пакосе
Ляжала дзяціна.

— Забірай дзяціну —
Сорама не будзе,
Цераз гадок, другі
Табе помач будзе.

— Ой, маманька, мама,
Шчэ й друга прычына:
Ў сенях за дзвярыма
Там плача дзяўчына.

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.






Калі ваша жонка пачне гаварыць, націсніце тэту кнопку!

*

— Учора быў я з жонкай у кіно і неспадзявана села каля мяне чароўная маладая дзяўчына...

— Шчаслівец, а магло быць наадварот.

*

Раздражнены муж да жонкі:

— Гэтага яшчэ не хапала! Вяртаюся галодны з работы, а абеду няма. Іду ў рэстаран.

— Любы мой, не хвалюйся. Пачакай пяць мінут.

— Што, абед будзе?

— Не, толькі апрануся і пойдзем разам.

*

Пара сядзіць у кавярні.

— Аб чым думаеш, каханы?

— Аб тым, аб чым і ты!

— Сапраўды? Дык пойдзем да мяне ці да цябе?




**Колькі ж дурняў, убачыўшы, што дзяўчына мае прыгожыя вочы і зграбныя ногі, жэніцца з усёй рэштай.**